**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 7.34, 17.14, 9.40;
Віцебск — 7.28, 17.00, 9.32;
Магілёў — 7.23, 17.03, 9.40;
Гомель — 7.17, 17.04, 9.47;
Гродна — 7.49. 17.30, 9.41;
Брэст — 7.45, 17.34, 9.49.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 11 лютага.

**ІМЯНІНЫ:**
Кіра, Івана, Апанаса, Хвядоцці, Мікіты, Нічыпара, Клаўдзія, Віктара; Анелі, Грыгорыя.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 40 кап.

13 ЛЮТАГА 1992 г. чацвер, № 31 (21809)

## РоЗГАЛАС

### ЯК СПРАВЫ, МУС?

**У аўторак прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі рэспублікі былі запрошаны на прэс-канферэнцыю міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Ягорава. Сабраў яе міністр вельмі дарэчы, бо заклапочанасць у грамадстве станам абароны правапарадку вельмі высокая.**

Пасля ўвядзення з 1 сакавіка мінулага года Закона аб міліцыі, адзначыў У. Ягораў, у міліцыі былі створаны новыя структуры, адпавядаючыя патрабаванням дня і выкліканыя сітуацыяй у грамадстве. Пад юрысдыкцыю МУС Беларусі былі ўзяты падраздзяленні ўнутраных войск, якія знаходзяцца на тэрыторыі РБ, а таксама навучальныя ўстановы, падпарадкаваныя раней МУС СССР. На 17 працэнтаў быў скарочаны кіраўніцкі апарат МУС і яго абласных структур, а вызваленыя стаўкі перададзены, як выказаўся міністр, на «пярэдні край» — у гарадскія і раённыя аддзелы ўнутраных спраў. І вось вынікі: рост злачыннасці ў 1991 годзе скараціўся на 6 працэнтаў. Асабліва важна, што скарацілася група цяжкіх злачынстваў — забойстваў, разбояў, згвалтаванняў. Летась раскрыта 74,8 працэнта ўсіх учыненых у рэспубліцы злачынстваў. Гэты паказчык — лепшы сярод членаў СНД. Але, як прызнаў міністр, за астатнімі 25,2 працэнта тысячы злачынстваў, а, значыць, міліцыі яшчэ трэба працаваць і працаваць.

У адказах на пытанні журналістаў было зазначана, што якасна мяняецца характар эканамічнай злачыннасці. Прыхоўванне тавараў у магазінах — гэта кветачкі ў параўнанні з маштабамі дзейнасці ценявікоў, якія знайшлі сабе прытулак пад шыльдамі біржаў, камерцыйных і іншых структур, што нараджаюцца ледзь не кожны дзень. Але непаспяванне заканатворцаў за жыццём прыводзіць да таго, што яўная незаконная дзейнасць не знаходзіць адлюстравання ў законе.

Шмат увагі было нададзена ахове гуманітарнай дапамогі, якая паступае з-за мяжы. Журналістам было сказана адназначна: яе транспарціроўка па тэрыторыі Беларусі і дастаўка атрымальніку праходзіць пад кантролем міліцыі.

Асобным пытаннем была праблема захавання законнасці супрацоўнікамі міліцыі. Міністр падкрэсліў, што органы МУС ачышчаюцца ад тых, хто іх кампраметуе. 99 працэнтаў такіх выпадкаў выяўляецца непасрэдна работнікамі міліцыі. На працягу 10 дзён лютага з органаў унутраных спраў міністр звольніў некалькі чалавек.

МУС Беларусі заключаны дагаворы аб супрацоўніцтве з аналагічнымі міністэрствамі Расіі, Літвы, Латвіі.

У заканчэнне У. Ягораў зазначыў, што супрацоўнікі МУС і яго органы на месцах імкнуцца ўсяляк дапамагаць журналістам у падрыхтоўцы публікацый, звязаных з яго тэматыкай. Што ж, прыклад, варты пераймання.

**Кар. «Звязды».**

### УСТАНОЎЧЫ СХОД

**У радзе міжнародных палат папаўненне. Акрамя італа-беларускай, у нас з'явілася і польска-беларуская гандлёва-прамысловая палата. У Брэсце адбыўся яе ўстаноўчы сход.**

У ходзе сустрэчы паўсотні польскіх прадпрымальнікаў і столькі ж прадстаўнікоў нашых прадпрыемстваў і арганізацый, якія выступілі заснавальнікамі, абмеркавалі і прынялі статут палаты, выбралі кіруючыя органы і савет, які будзе збірацца не радзей аднаго разу ў два гады. Паколькі палата будзе знаходзіцца ў Варшаве і стане польскай юрыдычнай асобай, яе генеральным сакратаром выбраны член парламента генеральны дырэктар Усяпольскай гаспадарчай палаты Марэк Клочка.

### «Змякчыць сацыяльны ўдар нам самім не пад сілу»

**— так лічаць на Навагрудскім заводзе газавай апаратуры.**

*Сёння тут, як сказаў нам старшыня прафкома Генадзь Янчанка, не ведаюць, як звесці канцы з канцамі. Разбураны ўсе гаспадарчыя сувязі, а вынік—значныя недапастаўкі металу. Многія ключавыя ўчасткі, такія, як, напрыклад, газабалонны, доўгі час прастойваюць. Людзей вымушаны адпраўляць у адпачынак, у тым ліку і неаплачваемы. 200 чалавек ужо вярнуліся, а работы ім не даюць. Падскочылі цэны, а мы вымушаны на трэць знізіць аплату працы рабочых. Няцяжка прадказаць, у што гэта можа выліцца. Выправіць становішча, неяк змякчыць гэты сацыяльны ўдар нам самім не пад сілу. Наладжваннем эканамічных сувязей павінны заняцца тыя, хто іх разарваў.*

### КАМУ—НІЧОГА, КАМУ— ТРАКТАР ЗА 50 РУБЛЁЎ

**УШАЧЫ. У нядзелю, 9 лютага, на гарадскім стадыёне райцэнтра адбыўся мітынг. На ім абмеркаваны тры асноўныя пытанні: бяздзейнасць кіраўніцтва раёна па ўсіх важнейшых пытаннях, несправядлівае размеркаванне тавараў народнага спажывання, незаконная прыватызацыя, якую разгарнулі кіраўнікі розных рангаў дзеля асабістай нажывы.**

У гарачых выступленнях на мітынгу прыводзілася шмат фактаў. Як адзначыў старшыня савета прадстаўнікоў працоўных калектываў Анатоль Прашкевіч, — а менавіта па закліку гэтага савета і адбыўся мітынг, — у раён завезена на аднаго чалавека па 1,2 пары мужчынскага абутку, па 2,2 — жаночага і па 6,4 — дзіцячага. Але дзе ўсё гэта падзелася, калі ў многіх, асабліва вясковых жыхароў, з візітнай карткі не выразаны ніводзін талон.

У той час як жыхары вёсак не могуць набыць нават гумавых ботаў, кіраўнікі розных рангаў старанна праводзяць прыватызацыю жылля і тэхнікі.

Дыспетчар МПМК-66 Аляксандр Лосеў гаварыў на мітынгу, што спецыялісты іх арганізацыі падлічылі, колькі каштуе адзін катэдж з тых, якія не так даўно пабудаваны на сродкі былога райаграпрома. Лічба аказалася немалая — больш як 500 тысяч рублёў. Не чакаючы рэспубліканскага закона аб прыватызацыі, катэджы пачалі распрадаваць. Толькі не за поўны іх кошт, а... за 33 тысячы рублёў.

Асабліва танна дастаецца розным начальнікам тэхніка. Старшыні райспажыўсаюза М. Храмёнку, напрыклад, трактар Т-40 абышоўся ўсяго ў 50 (!) рублёў.

Падобных прыкладаў на мітынгу прыводзілася шмат.

Пасля абмеркавання такога становішча ў раёне на мітынгу была прынята рэзалюцыя. Асноўны пункт з пяці — патрабаваць ад сесіі райсавета адстаўкі скампраметаваўшых сябе адказных асоб.

Было вырашана таксама падтрымаць ініцыятыву правядзення рэферэндуму ў рэспубліцы, па пытанню адстаўкі Вярхоўнага Савета і датэрміновых выбарах.

Зараз у раёне працуе камісія Віцебскага абласнога Савета народных дэпутатаў. А ў хуткім часе адбудзецца сесія раённага Савета, на якой будуць разгледжаны ўсе пытанні, узнятыя на мітынгу.

**Вольга ГАВЯЙКОВІЧ.**

### ЖЫЦЬ ПА-ШВЕДСКУ—ТАННЕЙ?

СТОЎБЦЫ. **(Э. Саевіч).** Павышэнне цэн на ўсё на свеце, у тым ліку і на абслугоўванне маладых людзей ва ўстановах ЗАГСа, зусім не падштурхоўвае апошніх да хутчэйшага заключэння шлюбу. Статыстыка ведае ўсё: за апошні месяц толькі тры пары наведалі стаўбцоўскі храм кахання. У той жа час летась іх было адзінаццаць.

Кажуць, у скандынаўскіх краінах жывуць, не распісваючыся...

### ЦЯЖКА, КАЛІ НІХТО НІ ЗА ШТО НЕ Ў АДКАЗЕ

**ЛУНІНЕЦ. У панядзелак, 3 лютага, у 17 гадзін чыгуначнікі станцыі Лунінец заўважылі цечу ў адной з цыстэрнаў з бензолам. Груз ішоў транзітам з Янакіева ў Германію. Бензол — рэчыва высокатаксічнае, лёгка выпараецца і гэтак жа лёгка ўзгараецца. Таму далей транспарціраваць дзіравую цыстэрну з гэтым ядам было небяспечна. Яе адчапілі ад асноўнага саставу і паставілі на запасную чыгуначную ветку непадалёк ад завода «Палессеэлектрамаш».**

**Чуткі адна жудасней за другую папаўзлі па горадзе. Першымі захваляваліся рабочыя «Палессеэлектрамаша»: што будзе, калі атрута трапіць у пітную ваду?**

**Але чыгуначнікаў гэта праблема мала хвалявала. Атрута больш за суткі лілася на зямлю. А на станцыі чакалі дапамогі то з Гродна, то яшчэ адкуль, амаль не робячы ніякіх захадаў для таго, каб самім ліквідаваць небяспеку. Калі хваляванне людзей у горадзе дасягнула апагея, няспраўнасць была ліквідавана за лічаныя хвіліны. Як высветлілася, асаблівых складанасцей справа не ўяўляла. Праўда, актыўнасць праявілі не чыгуначнікі. Прыйшлося паклікаць на дапамогу вайскоўцаў. Небяспечную цыстэрну адцягнулі ад горада з тым, каб бензол, які ў ёй яшчэ застаўся, перапампаваць у новую ёмістасць. Зрабілі гэта толькі пазаўчора. Вылілася, як лічаць спецыялісты, 20,4 тоны ядавітага рэчыва. Дай Бог, каб усё абышлося добра. І ўсё ж, лічу, нельга кампетэнтным асобам абыякава аднесціся да гэтага факта.**

**Таццяна ВАЙЦЯХОЎСКАЯ.**

### СУСТРЭЧА Ў МІНСКУ: «ЦІ БУДЗЕ, НАРЭШЦЕ, ЗГОДА?»

**14 лютага ў Мінск зноў з'едуцца кіраўнікі СНД, каб вырашыць пытанні, якія датычацца цэн, арміі і бяспекі. Як сказаў Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч на сустрэчы з ваеннаслужачымі мотастралковай дывізіі, менавіта армейскае пытанне можа стаць каменем спатыкнення. Калі кіраўнікі СНД не прыйдуць па гэтаму пытанню да згоды, ёсць верагоднасць таго, што Садружнасць можа развваліцца. Таму, як нам здаецца, у кіруючых колах суверэнных дзяржаў гэтай сустрэчы надаецца асаблівая ўвага. А што ж людзі? Чаго яны чакаюць ад лідэраў СНД?...**

**Руслан УГНЯЁНАК, карэкціроўшчык НВА «Гранат»:** Ведаю, што адбудзецца такая сустрэча ў Мінску. Дзякуй Богу, газеты чытаем. Будзе ісці размова аб арміі, бяспецы, будуць, мабыць, ламацца коп'і наконт стратэгічных войскаў. Але, калі быць шчырым, мяне сёння гэта аніяк не турбуе. Больш непакоіць, якую выхадную дапамогу мне дадуць у сувязі са звальненнем з прадпрыемства.

**Андрэй КАВАЛЕЎ, рабочы завода халадзільнікаў:** Яшчэ адна сустрэча кіраўнікоў, ад якой нам, працоўным, не будзе ні холадна, ні горача. А мабыць, і наадварот — прымуць такія рашэнні, якія зноў-такі прынясуць замест палёгкі новыя праблемы. Вы кажаце, што будуць вырашацца пытанні фінансавання арміі? Не ведаю. Думаў, што гаворка на сустрэчы пойдзе аб цэнах у шырокім сэнсе гэтага слова. Аб фінансаванні арміі... Зноў ваенных пасадзяць на хрыбет рабочым. Так што нічога асаблівага, думаю, 14 лютага не адбудзецца.

**Вольга МІХАЛЕВІЧ, часова нідзе не працуе:** Сёння, лічу, пытанні, якія будуць разглядацца на гэтай сустрэчы, нікога не турбуюць (Вольга Аляксееўна крыху падумала). Прабачце, можа я не так сказала. Сёння гэтыя пытанні не самыя важныя. А калі шчыра, то для мяне палітыка — цёмны лес. Няхай збіраюцца, прымаюць рашэнні, спрачаюцца. Хочацца толькі, каб кіраўнікі СНД нарэшце прыйшлі да згоды там, дзе «пачынаемся» мы і нашы інтарэсы...

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### ПРЫЕМНАЯ НАВІНА

Яе атрымаў з Парыжа акадэмік Мікалай Барысевіч. За выдатную дзейнасць беларускі фізік выбраны праўдзейным членам Еўрапейскай акадэміі навук, мастацтваў і славеснасці.

Гэта акадэмія, заснаваная больш як дзесяць гадоў назад, бачыць сваю задачу ў садзейнічанні вырашэнню важнейшых для чалавецтва праблем у галіне навукі, адукацыі і мастацтва. Выбранне М. Барысевіча акадэмікам ЕАН будзе садзейнічаць расшырэнню міжнароднага супрацоўніцтва вучоных Беларусі.

### ПАРЛАМЕНТ: А ШТО «ЗА КАДРАМ»?

Якія пытанні вынесці, на разгляд чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь? Актуальная дыскусія наконт гэтага разгарнулася на пасяджэнні Прэзідыума, што адбылося днямі. Сакратар Камісіі па пытаннях экалогіі і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў У. Шаўцоў выказаўся катэгарычна: «Першым пунктам трэба паставіць пытанне аб недаверы ўраду». Такой жа думкі прытрымліваецца і народны дэпутат В. Кучынскі, які зазначыў, што «настаў час назваць рэчы сваімі імёнамі, а ўраду рэспублікі — адказаць за свае дзеянні па мэтанакіраванай дыскрэдытацыі Вярхоўнага Савета».

Гучаў такі аргумент: ніяк іначай, як дыскрэдытацыяй парламента, можна назваць заяву прэм'ер-міністра В. Кебіча на сустрэчы з прадпрымальнікамі, абурэнне якіх з нагоды высокіх падаткаў ён скіраваў цалкам у адрас Вярхоўнага Савета. Але ж дэпутаты добра памятаюць, што В. Кебіч пераконваў з трыбуны парламентарыяў, як важна для рэспублікі зацвердзіць менавіта такія стаўкі падаткаў. Іншы варыянт — згубны для нашай эканомікі, сцвярджаў тады прэм'ер-міністр.

Называлася і такая лічба: 80 дэпутатаў апошнім часам перайшлі на работу ў структуры Саўміна і, натуральна, зацікаўлены «працягваць» у парламенце любыя рашэнні ўрада.

Большасць членаў Прэзідыума прагаласавалі за тое, каб заслухаць на сесіі справаздачу Савета Міністраў аб удасканаленні падаткаабкладання.

Не знайшла належнага водгуку і прапанова С. Шушкевіча аб уключэнні ў парадак дня сесіі пытання аб парадку адклікання народных дэпутатаў. Катэгарычна адхілілі яго У. Станкевіч, У. Гаркун і іншыя.

Вельмі важнае пытанне спрабаваў вынесці на разгляд сесіі і старшыня Камісіі па рабоце Саветаў У. Леўчык — аб выбарах старшынь мясцовых Саветаў. Дарэчы, пра гэта гаварылася яшчэ і на мінулай сесіі дэпутатам А. Лукашэнкам, іншымі. Чым жа аргументавалася іх настойлівасць? На думку дэпутатаў, сёння на месцах сапраўдны параліч улады. Партыйная наменклатура своечасова перасела ў крэслы кіраўнікоў савецкіх органаў і працягвае весці тую самую палітыку. Выбары, безумоўна, дазволяць прыйсці да ўлады людзям новага мыслення, якія хвараюць за народ, а не за сваё крэсла...

Аднак і на гэты раз довады не былі пачуты — пытанне «забалаціравалі»... Але ж самі праблемы такім чынам не здымеш. Жыццё ўсё адно прад'явіць свой рахунак, так лічаць сёння многія члены парламента. І, здаецца, выспявае думка: а ці не час ужо Вярхоўнаму Савету адпаведным чынам ацаніць пазіцыю свайго Прэзідыума, якая з зайздроснай упартасцю адбіваецца ад жыццёва важных, даўно наспелых праблем?

**Людміла ДРАЗДОВА.**

### ЦЭНЫ НА РЫНКАХ БЕЛАРУСІ

**Віцебск:** свініна— 60—65, ялавічына — 70, трус (1 тушка) — 150—200, яйкі (1 дзесятак) — 15, малако — 25, смятана — 40, тварог — 25, цыбуля — 12, часнок— 3—10, лімон — 15—20, арэхі (фундук) — 60, гранат (1 шт.) — 4—25, мёд—220.

**Гомель:** свініна — 60—65, куры (1 тушка) — 150, яйкі — 18, морква — 3—4, цыбуля — 16—20, часнок — 10, капуста (1 качан) — 4—6, мёд — 150, лімон — 10—25.

**Брэст:** свініна — 140 — 150, індык (1 тушка) —450 — 470, качка (1 тушка) — 200—250, яйкі — 25—30, масла — 100, смятана — 80, бульба —5, агуркі (св.) —170—200, яблыкі — 60.

**Мінск:** свініна — 70—100, куры (1 кг) — 60, трус (1 кг)—50, нутрыя (1 кг) — 35, яйкі — 15, масла —100, смятана — 80, тварог — 30—40, бульба— 5—7, морква — 5, буракі — 5, цыбуля — 10, часнок — 10—15, яблыкі — 45—60, мандарыны — 60—70, агуркі свежыя — 100—110 і памідоры — 150, мёд — 220—240.

Курс купона на Камароўскім рынку ўпаў да 0,5—0,4 рубля.

**Агенцтва РІД.**

## *В. КЕБІЧ:* «Нам не ўсё пад сілу, але мы вас не кінем...»

### НА КОЖНЫЯ 43 ЧАЛАВЕКІ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ ПРЫПАДАЕ АДЗІН ВАЕННАСЛУЖАЧЫ

11 лютага ў Мінску сапраўды быў «ваенны» дзень: з раніцы тут адкрылася нарада міністраў абароны краін СНД, а Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч сустрэўся з воінамі гвардзейскай Рагачоўскай Чырванасцяжнай мотастралковай дывізіі імя Вярхоўнага Савета РБ.

Не выпадкова гэта сустрэча праводзіцца якраз напярэдадні сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці ў Мінску, сказаў В. Кебіч. У беларускага ўрада ўзнікла неабходнасць яшчэ раз выказаць свае адносіны да арміі, да лёсу ваеннаслужачых.

В. Ф. Кебіч, папярэджваючы многія пытанні, расказаў аб гісторыі ўтварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Цяпер нам многія ставяць у віну, што мы своечасова не падумалі пра армію, сказаў ён, якая ў выніку стала ледзь не самастойнай палітычнай сілай: маўляў, ваеннаслужачыя выпушчаны ў белы свет без усякай сацыяльнай абароны. Між тым, гэтыя пытанні ўжо двойчы абмяркоўваліся — і на мінскай сустрэчы, і на нядаўняй — у Маскве. Праўда, там было больш пытанняў, чым адказаў на іх, выявіліся і сур'ёзныя рознагалоссі. Я магу сказаць, што 14 лютага ваенныя пытанні будуць асноўнымі, і калі яны хоць у нейкай ступені не вырашацца, то будучыня існавання Садружнасці можа аказацца пад сумненнем. Галоўнае тут — фінансаванне арміі. Як вядома, 62 працэнты сродкаў выдзяляе Расія, 5,4 — Беларусь (наша доля ў рублях складае 17,5 млрд.). Гэта нам яўна не пад сілу, і мы аб гэтым заявілі. Між тым, паабяцаў беларускі прэм'ер, урад зробіць усё магчымае, каб войскі БВА былі забяспечаны ўсім неабходным у поўнай меры.

Сярод пытанняў, зададзеных В. Кебічу, вылучалася такое:



як будзе адбывацца скарачэнне колькасці войск на тэрыторыі Беларусі? Гэта справа не аднаго года, адказаў Старшыня Савета Міністраў. Ліквідацыя адной толькі дывізіі адчувальная ў сацыяльным плане для любой вялікай дзяржавы: тысячы людзей трэба ўладкаваць на работу, выплаціць дапамогу і г. д. Але рабіць гэта давядзецца: сёння ў Беларусі на 43 чалавекі насельніцтва прыпадае адзін вайсковец. Для параўнання: на Украіне — на 98, у Казахстане—на 118, Таджыкістане — на 528, Расіі — на 634. Так што мы не зможам утрымліваць Беларускую ваенную акругу ў такім выглядзе, як цяпер. Ваенная дактрына будзе будавацца не на колькасці, а на якасці і майстэрстве. Нам патрэбна мабільнае войска, і яго колькасць, мабыць, не будзе перавышаць 80 тысяч чалавек.

Адказваючы на пытанне аб сацыяльнай абароненасці вайскоўцаў, В. Кебіч сказаў, што на іх у поўнай меры распаўсюджваюцца тыя меры ўрада, як і на сацыяльную падтрымку насельніцтва рэспублікі.

Многіх цікавіла і ўжо набіўшая аскому праблема ваеннай прысягі. Кіраўнік беларускага ўрада адказаў, што ён за тое, каб прысягаць адзін раз. У нашай рэспубліцы так і робіцца — прысягу прымаюць толькі навабранцы.

Дзе будзе браць Беларусь кадры для сваіх УС і як стане развівацца беларуская ваенная думка ў такіх умовах? У прынцыпе тут няма праблемы: у нас ёсць цэлая сетка ваенных вучылішчаў, якія змогуць падрыхтаваць высокакваліфікаваных спецыялістаў, па дагавору можна будзе прадоўжыць вучобу і за межамі Беларусі. Зараз распрацоўваецца закон аб ваенным будаўніцтве ў РБ і сёлета, напэўна, ён будзе прыняты.

42 пытанні былі зададзены Старшыні Савета Міністраў, зразумела, не ўсе аднолькавай важнасці, былі і прыватныя. Але адказы даваліся, здаецца, грунтоўныя. Прынамсі, некалькі разоў гучалі апладысменты. Мяркуючы па рэакцыі залы, сустрэчай задаволены абодва бакі.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

**Складаная эканамічная сітуацыя ў Беларусі за апошнія тыдні дапоўнілася перспектывай палітычнай нестабільнасці: аб'яднаныя дэмакратычныя сілы, як і Народны Фронт, які не палічыў патрэбным далучыцца да блоку «Новая Беларусь» — заклікаюць да рэферэндуму аб датэрміновых выбарах Вярхоўнага Савета.**

**Якія аргументы ў тых, хто пераканаы ў неабходнасці такога кроку, і ў тых, хто адмоўна ставіцца да ідэі рэферэндуму!**

**Сёння мы знаёмім з пунктамі гледжання на гэту праблему двух народных дэпутатаў Беларусі.**

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**НАРОДНЫ ДЭПУТАТ БЕЛАРУСІ**

## Пра становішча на Беларусі

Цяпер, калі на Беларусі крута ўгару пайшла інфляцыя, моцна павысіліся цэны і амаль зусім зніклі неабходныя тавары, кожны задумваецца — што чакае наша грамадства, у чым прычына зніжэння жыццёвага ўзроўню і дзе выхад.

Першае, што трэба адзначыць, насуперак пракамуністычнай прапагандзе — на Беларусі ўся ўлада (ад Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў да сельсавета) знаходзіцца ў руках былой камуністычнай наменклатуры. Ніякіх перамен у сферы ўлады ў нас не адбылося. Камуністы пасля жніўня 1991 г. згубілі свае ідэалагічныя структуры, але ўлада засталася ў іхніх наменклатурных функцыянераў. Таму эканамічная і сацыяльная палітыка на Беларусі не змянілася, ніякіх рынкавых рэформаў не назіраецца, ніякага пераходу да рынку няма, захавалася гаспадарчая структура адміністрацыйна-каманднай сістэмы.

Кіруючыя начальнікі на Беларусі працягваюць палітыку Гарбачова, які хацеў злучыць незлучальнае — камунізм з рынкам і прадоўжыць уладу КПСС. На чым і «пагарэў».

Разумныя эканамісты ведаюць, што нельга ў адміністрацыйна-дзяржаўную эканамічную сістэму ўводзіць рыначныя структуры. Павінна быць альбо адно, альбо другое. Альбо дзяржаўна-адміністрацыйная эканоміка пад прымусам,

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**Аляксандр САСНОЎ,**
**СТАРШЫНЯ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ:**

## «Не варта расхістваць лодку»

**— Вы — з тых, хто не згодны з ацэнкай прычын цяперашняга эканамічнага крызісу, якую дае апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце?**

— Эканамічны крызіс у рэспубліцы мае аб'ектыўныя прычыны. І я не згодзен з З. Пазьняком, які бачыць іх толькі ў суб'ектыўных абставінах. Сістэму, пабудаваную на утапічных ідэях бальшавікоў, не так проста змяніць, — яна пусціла карані не толькі ўглыб усёй эканомікі, але і ў псіхалогію. А каб правесці змены ў грамадскай псіхалогіі, патрэбны дзесяцігоддзі, змена пакаленняў.

**— І ўсё ж вы наўрад ці будзеце аспрэчваць відавочны факт, што, як і сцвярджае З. Пазьняк, былая камуністычная наменклатура захавала ўладу на Беларусі, і гэта адбіваецца на тэмпах рэформ?**

— Не столькі камуністычная наменклатура захавала ўладу. колькі людзі, што да гэтага часу застаюцца пад уплывам камуністычнай ідэалогіі (у значнай колькасці выпадкаў яны ніколі не былі наменклатуршчыкамі). Рынак гэтыя людзі ўспрымаюць толькі на словах, не разумеючы ні сутнасці яго, ні таго, як туды рухацца. У той жа час сярод сённяшніх кіраўнікоў нямала здольных спецыялістаў, якія выдатна арыентуюцца ў цяперашняй сітуацыі і могуць выпрацаваць канкрэтную праграму дзеянняў у эканоміцы.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

**Аб пераразліку пенсій ваеннаслужачым войск і органаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі, унутраных войск, асобам начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і іх сем'яў**

У мэтах выканання пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 21 снежня 1991 г. «Аб неадкладных мерах, звязаных з пенсіённым забеспячэннем грамадзян Рэспублікі Беларусь» Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што пенсіі за выслугу гадоў і па інваліднасці асоб афіцэрскага саставу, прапаршчыкаў, мічманаў і ваеннаслужачых звыштэрміновай службы войск і органаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі, унутраных войск, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і пенсіі з выпадку страты кармільца іх сем'яў, назначаныя ў адпаведнасці з Законам СССР «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых», пачынаючы з 1 студзеня 1992 г. штогод пераглядаюцца зыходзячы з існуючага па стану на 1 студзеня ўзроўню ўлічваемага пры вылічэнні ім пенсій грашовага забеспячэння адпаведных катэгорый ваеннаслужачых асоб начальніцкага і радавога саставу, якія знаходзяцца на службе.

Мінімальныя размеры пенсій, надбаўкі да іх, а таксама гранічны размер грашовага забеспячэння, які ўлічваецца для іх налічэння, вызначаюцца зыходзячы з мінімальнага размеру заработнай платы (пенсіі па ўзросту), устаноўленага ў рэспубліцы.

2. Пенсіянерам з ліку ваеннаслужачых войск і органаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі, унутраных войск, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў, якія прыбылі ў рэспубліку на пастаяннае пражыванне з іншых суверэнных рэспублік (дзяржаў), пенсіі пераразлічваюцца зыходзячы з узроўню грашовага забеспячэння, устаноўленага заканадаўствам Рэспублікі Беларусь для адпаведных катэгорый ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу, якія знаходзяцца на службе.

3. Міністэрству фінансаў прадугледжваць у бюджэтах неабходныя асігнаванні для выплаты пенсій указаным у гэтай пастанове катэгорыям асоб у новых размерах.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

28 студзеня 1992 г. г. Мінск.

## *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

**Аб распаўсюджванні дзеяння пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 студзеня 1992 г.**

У сувязі з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 11 студзеня 1992 г. «Аб Узброеных Сілах, якія дыслацыруюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Распаўсюдзіць дзеянне пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 студзеня 1992 г. № 37 «Аб пераразліку пенсій ваеннаслужачым войск і органаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі, унутраных войск, асобам начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і іх сем'яў» на ваеннаслужачых, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, і членаў іх сем'яў.

**Намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. МЯСНІКОВІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

10 лютага 1992 г., г. Мінск.




# Што мы чакаем ад рынку каштоўных папер?

**Сёння нярэдка можна пачуць пра каштоўныя паперы. А што яны сабой уяўляюць і для якой мэты служаць!**

**Аб гэтым, а таксама аб перспектывах развіцця рынку каштоўных папер у рэспубліцы расказвае намеснік начальніка аддзела каштоўных папер Нацыянальнага банка С. ЖАЎНЯРОВІЧ.**

**Ён таксама знаёміць з тым, як абыходзіцца з дэпазітным сертыфікатам, на выпуск якіх нядаўна даў дазвол Нацыянальны банк Беларусі.**

Увявім сабе наступны малюнак: з аднаго боку, ёсць значная колькасць прадпрыемстваў, ды і проста грамадзян, якія маюць накапленні і жадаюць размясціць іх з выгадай для сябе; з другога — не меншая колькасць прадпрыемстваў і тых жа грамадзян, жадаючых, у сваю чаргу, атрымаць пэўную суму грашовых сродкаў. Гэта лагічна падвяло цывілізацыю як да стварэння банкаў — механізма рэалізацыі інтарэсаў і тых і другіх, так і рынку каштоўных папер— найбольш дэмакратычнага інструмента задавальнення ўласніцкага інтарэсу.

У самым агульным выглядзе каштоўная папера — гэта грашовы дакумент, які ўстанаўлівае маёмасныя правы ўладальніка ў адносінах да выпусціўшай іх асобы. Гэта значыць, набываючы каштоўную паперу, яе ўладальнік або становіцца ўласнікам часткі маёмасці з правам атрымання прыбытку ад яе выкарыстання, або набывае права на атрыманне працэнтаў і вяртанне кошту гэтай паперы. Можна разлічваць і на большы яе кошт супраць таго, за які набылі. Такім чынам, для асобы, якая жадае ўкласці свае капіталы з найбольшай для сябе выгадай, каштоўныя паперы адкрываюць самыя шырокія магчымасці для выбару сфер прымянення сродкаў, а для асоб, якія імкнуцца прыцягнуць капіталы, яны забяспечваюць такую магчымасць.

Сусветная практыка мае вялікі вопыт эфектыўнага выкарыстання каштоўных папер у якасці інструмента кіравання фінансавымі рэсурсамі, паказала магчымасці банкаў, якія актыўна ўдзельнічаюць на рынку каштоўных папер, у стварэнні ўмоў для хуткага пераліву капіталаў у адпаведнасці са зменлівай структурай патрэб грамадства. Але, на жаль, прыходзіцца канстатаваць, што гэты вопыт нас практычна не закрануў. Толькі сёння мы пачынаем закладваць асновы рыначнай эканомікі, фарміраваць рынак каштоўных папер.

Ва ўмовах значнага пагаршэння эканамічнай сітуацыі ўзрасла неабходнасць стварэння пэўных інструментаў для больш аператыўнага перамяшчэння капіталаў, хуткай акумуляцыі грашовых сродкаў. Гэта запатрабавала ад заканадаўцаў Рэспублікі Беларусь, вядучых эканамічных органаў падрыхтоўкі нарматыўнай базы, якая служыла б асновай для выпуску і абарачэння на тэрыторыі рэспублікі самых разнастайных відаў каштоўных папер.

Цяпер Вярхоўны Савет нашай рэспублікі разглядае Закон аб каштоўных паперах і фондавай біржы. Ён будзе рэгуляваць выпуск і абарачэнне такіх каштоўных папер, як акцыі і аблігацыі. Нацыянальны банк рэспублікі падрыхтаваў пісьмо аб парадку выпуску і абарачэння дэпазітнага сертыфіката, які дае права ўкладчыку ўносіць грошы ў банк не на тых умовах, якія яму банк дыктуе, а па ўзаемнай дамоўленасці. Разам з шэрагам камерцыйных структур ён таксама распрацоўвае праект дакумента аб вэксальным абарачэнні на тэрыторыі рэспублікі і г. д.

Наяўнасць заканадаўства, на падставе якога ствараецца і рэгулюецца рынак каштоўных папер,— гэта, аднак, не ўсё. Нехта павінен узяць на сябе адказнасць па масаваму першапачатковаму выпуску гэтых папер. На сённяшні дзень гандаль каштоўнымі паперамі носіць лакальны, амаль выпадковы характар. Гандлююць, у асноўным, акцыямі камерцыйных фірмаў, біржаў, банкаў, з'яўляюцца адна-дзве дзяржаўныя пазыкі выпуску мінулых гадоў. Напаўненне рынку каштоўных папер у цэлым не перавышае 5—10 працэнтаў ад яго патэнцыяльных магчымасцей і патрэб, а ў асобных буйных рэгіёнах, напрыклад, Беларусі, ён практычна адсутнічае. Сур'ёзную заяўку аб намеры ўдзельнічаць на рынку каштоўных папер павінны зрабіць урад у асобе Міністэрства фінансаў і непасрэдна Нацыянальны банк як вядучыя фінансава-крэдытныя інстытуты рэспублікі. Для патэнцыяльнага ўкладчыка сродкаў (інвестара) адной з важнейшых умоў, якой ён кіруецца пры куплі каштоўнай паперы, з'яўляецца не столькі размер будучага даходу, колькі гарантыі прадаўца каштоўнай паперы (эмітэнта), што гэты даход інвестар атрымае. У гэтай сувязі лагічна меркаваць, што найбольшыя гарантыі патэнцыяльнаму інвестару могуць прапанаваць менавіта крэдытна-фінансавыя інстытуты дзяржавы. Між іншым, сродкі, вырučаныя ад продажу дзяржаўных каштоўных папер, будуць накіраваны перш за ўсё на пакрыццё ўнутранага дзяржаўнага доўгу рэспублікі, які складае сёння некалькі мільярдаў рублёў. Маючы гэта на ўвазе, Міністэрства фінансаў і Нацыянальны банк рэспублікі павінны выпусціць і размясціць такую колькасць дзяржаўных каштоўных папер і па такім намінальным кошце, каб іх маглі набываць не толькі юрыдычныя асобы, але і простыя грамадзяне. Варта напоўніць рынак каштоўных папер рэспублікі на 30—40 працэнтаў. Сам жа факт іх з'яўлення і абарачэння падштурхне эмітэнтаў недзяржаўных структур да масавага выпуску ўласных каштоўных папер, запаўнення імі астатняга аб'ёму рынку.

Сёння цяжка гаварыць аб тым, калі менавіта дзяржавай будзе праведзена поўнамаштабная акцыя па эмісіі каштоўных папер, але тое, што гэта акцыя будзе праведзена, не выклікае ніякага сумнення.



Каля 20 тон шампуню, фіксіну, іткуру і іншых парфумерна-касметычных прэпаратаў штодзённа выпускае сумеснае савецка-італьянскае прадпрыемства «Беліта», якое знаходзіцца ў Мінску.

Яго прадукцыя карыстаецца значным попытам ва ўсіх кутках рэспублікі. На прадпрыемстве існуе высокая культура працы. Тут сучаснае абсталяванне, перадавая тэхналогія і як вынік — прадукцыя выдатнай якасці.

НА ЗДЫМКУ: начальнік лабараторыі Галіна ЛЕВАШКЕВІЧ.

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

# Аб дэпазітным сертыфікаце

## ЯК ВЫГАДНА ЎКЛАСЦІ ГРОШЫ

Днямі Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусі зацвердзіў нарматыўны дакумент, які рэгламентуе парадак выпуску і абарачэння дэпазітных сертыфікатаў.

«Ну і што? — спытае чытач. —Хлеба не хапае, а тут яшчэ нейкія сертыфікаты...». Але, магчыма, перад ім якраз адкрыюцца магчымасці, якія ён так доўга шукаў...

Што гэта такое — дэпазітны сертыфікат?

Гэта каштоўная папера, якая з'яўляецца пісьмовым пасведчаннем банка аб укладзе грашовых сродкаў і пацвярджае права ўкладчыка на атрыманне пасля заканчэння ўстаноўленага тэрміну сумы ўкладу і працэнтаў па ім. Заўважу: наша рэспубліка першай з дзяржаў СНД прыняла нарматыўны дакумент, які рэгламентуе выпуск і абарачэнне дэпазітнага сертыфіката. А ў рэспубліцы гэта наогул першы нацыянальны нарматыўны акт, які рэгулюе выпуск і абарачэнне каштоўнай паперы.

А цяпер пяройдзем да практычнага боку справы. У цябе, чытач, напэўна ёсць грошы, якія ты хацеў бы ўкласці з найбольшай выгадай для сябе. Купіць кватэру, аўтамабіль, пабудаваць дачу — дадзена цяпер не многім. Пакласці грошы ў Ашчадны банк? Працэнт маловаты. Купіць акцыю — наогул поўная няпэўнасць наконт далейшага лёсу ўкладзеных сродкаў...

Я ж зраблю наступнае: вазьму свае запаветныя 2, 3, 5, 10 і г. д. тысяч рублёў і пайду ў любы банк — Прамбудбанк, Прыорбанк, Мінскбізнесбанк... Там заяўляю, што хачу іх пакласці на тэрміновы ўклад на 1, 2, 3, 6, 12 і г. д. месяцаў. Пры гэтым падкрэсліваю, што Ашчадны банк можа мне даць толькі 15 працэнтаў гадавых, я ж згодзен пакласці грошы ў ваш банк, калі вы дасцё больш. Ну, скажам, 18. Потым патрабую, каб пад змяшчэнне сродкаў на тэрміновы ўклад банк выпісаў мне каштоўную паперу — дэпазітны сертыфікат, у якім ён пісьмова сведчыць аб сваім абавязацельстве вярнуць мне мае тысячы праз пэўны тэрмін і заплаціць звыш таго за карыстанне імі з разліку 18 працэнтаў гадавых. Справа зроблена: мае грошы не прападуць, яны надзейна абаронены ад інфляцыі, а каштоўная папера, мой дэпазітны сертыфікат, прыемна грэе сэрца ў нагрудняй кішэні пінжака.

Аднак такая сітуацыя: фартуна ўсміхнулася мне зноў: падвярнулася магчымасць набыць кухонны гарнітур. І якраз за тыя грошы, якія я ўжо паклаў на тэрміновы ўклад...

Усё цудоўна: бяру сваю каштоўную паперу, іду ў магазін кухонных гарнітураў і прашу прыняць дэпазітны сертыфікат у якасці аплаты за тавар. Магазін не толькі згаджаецца прыняць у аплату за тавар гэту паперу, але і выплачвае мне працэнты за той тэрмін, які яна знаходзілася ў мяне.

Спадзяюся, ты ўсё зразумеў, чытач? Агульныя прынцыпы работы з гэтай каштоўнай паперай усвядоміў: дэпазітны сертыфікат можна атрымаць толькі ў банку ў абмен на ўкладзеныя сродкі, пры гэтым у банку неабходна патаргавацца наконт сумы, тэрміну ўкладу і працэнтаў па ім. Пры неабходнасці дэпазітны сертыфікат можна прадаць ці разлічыцца ім за тавар — з улікам працэнтаў за той тэрмін, які гэта каштоўная папера знаходзілася ў цябе. Зазначу таксама: уладальнікам сертыфікатаў можа быць не толькі фізічная, але і юрыдычная асоба, г. зн. прадпрыемства, арганізацыя, кааператыў, малое прадпрыемства і г. д.

А больш падрабязную кансультацыю па пытаннях выпуску і абарачэння дэпазітных сертыфікатаў можна атрымаць у любым банку ці непасрэдна ў аўтара (тэл. 27-74-64).

## НАВІНЫ

### ЦІ ЗАЎСЁДЫ НОВАЕ ЛЕПШ!

Бізнесмены рэспублікі адмовіліся фінансаваць трансляцыю і ўдзельнічаць у падрыхтоўцы камерцыйнага канала Беларускага тэлебачання. У ходзе перагавораў высветлілася, што гаворка ідзе не аб адкрыцці новага канала, а аб трансляцыі камерцыйных праграм замест перадач тэлебачання Расіі.

Паводле слоў прэзідэнта Саюза прадпрымальнікаў У. Карагіна, Расійскае тэлебачанне вядзе штодзённую граматную работу па эканамічнай адукацыі гледачоў. І таму «глушэнне» РТ зараз занадта дарагая і немэтазгодная справа.

### УМЕЕМ ВЫРОШЧВАЦЬ — ЗДОЛЕЕМ І ПРАДАЦЬ

Магілёўская бройлерная фабрыка адкрыла ў абласным цэнтры свой фірменны магазін, які працуе па прынцыпу «прадпрыемства — прылавак». Цяпер птушкаводы гандлююць сваёй прадукцыяй напрамую, мінуючы базы-халадзільнікі. Гэта дазволіць зберагчы некалькі соцень тысяч рублёў у год, у якія абыходзяцца фабрыцы паслугі гандлю.

### ВУЧАЦЬ ЗНОЎ МАСКВІЧЫ

У Лідзе з'явіўся наш «калега» — бізнес-клуб. Ён адкрыўся на заводзе «Оптык». Заняткі ў ім будуць наведваць галоўныя спецыялісты, начальнікі цэхаў, кіраўнікі службаў. Слухачы пачалі ўжо знаёміцца з асновамі менеджменту, маркецінгу, «пакіравалі» ў дзелавых гульнях банкам, «пазмагаліся» з канкурэнтамі.

Дапамагла арганізаваць бізнес-клуб гарадская арганізацыя «Веды», а заняткі тут праводзяць вучоныя з Масквы і іншых гарадоў.

# Слоўнік бізнесмена

**Разліковая палата.** Орган, які ажыццяўляе разліковую функцыю па біржавых здзелках:

— рэгіструе кантакты, выступае гарантам іх выканання;

— устанаўлівае размер дэпазіта, прымае плацяжы дэпазіта і маржэ і выплачвае розніцу ў цэнах;

— вызначае парадак разліку, у тым ліку пры пастаўцы тавару па біржавых кантрактах.

Разліковая палата можа быць прадстаўлена як часткай біржы, так і самастойнай юрыдычнай асобай. Даходы яе фарміруюцца з рэгістрацыйных збораў і працэнта па дэпазітах і маржэ.

**Рэальны тавар.** Тавар з неадкладнай пастаўкай, на склад ці з пастаўкай у будучым—у процівагу ф'ючэрснаму кантракту, які заканчваецца афсетнай здзелкай і прадстаўляе абстрактны тавар.

**Самастойная каштоўнасць (унутраная).** Кошт апцыёну, калі б ён быў рэалізаваны неадкладна. Так, апцыён на куплю мае С. К., калі ф'ючэрсная цана вышэй цаны апцыёну, што дазваляе ўладальніку апцыёну купіць ф'ючэрсны кантракт ніжэй бягучай цаны. Велічыня С.К. роўная розніца паміж ф'ючэрснай цаной і базіснай цаной апцыёну.

**Скідка.** 1. Велічыня, на якую адна цана ніжэйшая за другую. 2. Дыферэнцыял, скідка на гатунак, што прапануецца ніжэй кантрактнай цаны.

**Спрэд (арбітраж, стрэдл).** 1. Адначасовая купля і продаж ф'ючэрсных кантрактаў аднаго і таго ж тавару з рознымі тэрмінамі пастаўкі ці двух розных, але ўзаемазвязаных тавараў.

2. Адначасовая купля і продаж ф'ючэрсных кантрактаў з неўзаемазвязанымі таварамі з мэтай зніжэння падаткаў, якія трэба заплаціць (падатковы спрэд).

3. Адначасовая купля і продаж апцыёнаў аднаго тыпу, але па розных базісных цэнах ці з розным перыядам часу да моманту заканчэння апцыёну, ці па розных цэнах і розным перыядам часу.

**Тэлефонна-тэлексны рынак.** Форма арганізацыі гандлю рэальным таварам на рынку, на якім дзейнічае ф'ючэрсная біржа. Кантракты заключаюцца пераважна па тэлексу ці факсу, паведамленне па якім з'яўляецца законным пацвярджэннем факта ажыццяўлення здзелкі.

**Таварны фонд.** Аб'яднанне капіталаў інвестараў, як правіла дробных, у выглядзе ўзносаў ці шляхам продажу паёў (акцый) для ўкладу ў біржавыя аперацыі, у запасы тавараў, у здзелкі на фондавых і валютных біржах. Рашэнні аб інвестыцыях прымаюцца аператарамі таварных фондаў.

**Гандлёвы дом.** Брокерская фірма, што займаецца здзелкамі з рэальным таварам за наяўны разлік ці ад імя вытворцаў спажыўцоў або іншых груп, якія заняты ў гандлі пэўным таварам. Прымаюць таксама даручэнні ад спекулянтаў і самі заключаюць здзелкі на ф'ючэрснай біржы.

**Форвардная здзелка.** Здзелка з рэальным таварам з пастаўкай на тэрмін (у будучым).

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# «Служыць бы рады...»

Армія ў апошні час знаходзіцца ў эпіцэнтры ўсеагульнай увагі. То яе лаюць на чым свет стаіць, то шкадуюць, як малое дзіця, што засталося без маці. Чаму так?

Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба зрабіць экскурс у недалёкае мінулае, паглядзець, каму служылі вайскоўцы, хто быў з імі побач у любы час, але найлепш у моманты, калі вырашаўся лёс Радзімы, лёс кожнага з нас. Самы бліжэйшы такі момант — той жнівеньскі путч. Менавіта тады мы сталі відушчымі і зразумелі, якія людзі кіруюць намі. А яны, дзяржаўныя мужы, нават не знайшлі часу падумаць, ацаніць сітуацыю, вывучыць настрой людзей. З вышыні службовых пасад ім бачыліся іншыя далягляды. Закалыханыя думкамі аб прывілеях, аб розных ільготах, аб уласнай велічы, уладалюбівыя чыны дзейнічалі ў адпаведнасці са сваімі абмежаванымі ўяўленнямі. Тым і выдалі сябе, паказаўшы, хто ёсць хто. Мы ўбачылі, што многія з тых, хто дасягнуў службовых вышынь, пазбаўлены маралі, а таксама — дзелавых і арганізатарскіх якасцей. Застаецца толькі здзіўляцца, як кіравалі яны і да іх падобныя краінай і арміяй, як прымалі рашэнні, ад якіх залежаў лёс кожнага з нас.

А так і кіравалі. Успомнім Афганістан. Успомнім зусім свежыя факты, калі армію спрабавалі сутыкнуць з народам у Тбілісі, Прыбалтыцы, іншых гарадах. «Паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць», — гаварылі даўней. У новай інтэрпрэтацыі гэта разумеецца інакш: палітыкі вырашаюць свае праблемы, а адказвае армія. Яе кідалі ў печ палітычных амбіцый, у горан бяздумных, авантурных планаў, і яна, армія, ратавала «вялікіх рулявых», выклікаючы на сябе справядлівае людское абурэнне. Армія слугавала палітыкам, за што і расплачваецца перад народам.

Сёння ваенныя пазбаўляюцца ад таго здранцвення, што дзесяцігоддзямі ператварала іх у паслухмяных прыслужнікаў. Дзеля гэтага ператварэння дзейнічалі спецыяльна створаныя сістэмай механізмы — цэлыя палітычныя інстытуты, прэса.

Гонар і сумленне, чалавечая годнасць, прынцыповасць і сардэчнасць. У ваенных гэтыя якасці — здавён на асаблівым рахунку. Аднак з цягам часу, калі чарвяк нявер'я раз'ядаў грамадства, з'явіліся ў арміі і іншыя ўяўленні. Лісліваць, імкненне дагадзіць, забегчы наперад. Хто рабалепстваваў, той хутчэй рухаўся па пасадных прыступках. А іншы, хоць і працаўнік, але яршысты, той не часта карыстаўся даверам начальства. Асобныя жылі асабліва прывольна. Маю на ўвазе сынкоў высокапастаўленых начальнікаў. Не ўсіх, але многіх.

Пра генерала В. Варэннікава, які стаў заўзятым памагатым путчыстаў, нядаўна даведаўся такое, што жахнуўся. Аказваецца, у Афганістан для яго спецыяльным самалётам былі дастаўлены каровы — любіў гэты пан ад арміі сырадой.

Выбралі ваенную сцежку і сыны Варэннікава. У свой час яны служылі ў Беларускай ваеннай акрузе. Адзін, ведаю, служыў добра, а другі больш у чарку заглядваў ды гуляў. Скажам, батальённае тактычнае вучэнне. Падыходзіў час абеду, і малады камбат забываў пра свае камандзірскія клопаты, адпраўляўся ў рэстаран. У горад (балазе, ён знаходзіўся непадалёк ад палігона) уязджаў на БТРы па цэнтральнай вуліцы. І нічога, сыходзіла з рук. Татка ўжо тады быў на даволі высокай прыступцы іерархічнай кіруючай лесвіцы. Значыць, і сынок недатыкальны.

Так было: праўда і хлусня, раскоша і беднасць існавалі побач. Цяпер ёсць магчымасць пазбавіцца ад усяго дрэннага, ад таго, што перашкаджала служыць сумленна, прымушала хітраваць, выкручвацца, крывадушнічаць, хлусіць. Вось толькі ці скарыстаем такі шанц?

Мора вылечыць цяжэй, чым невялікае возера. Ці не адсюль раздзел таго, што раней здавалася маналітным? Мы спадзяёмся вылечыцца паасобку. Што для гэтага патрэбна? Разуменне, жаданне, а галоўнае — чысціня памкненняў і ўчынкаў. Парадак наводзім не дзе-небудзь у «чужога дзядзькі» — у сваёй роднай хаце. Нядаўна ў штабе БВА абураліся афіцэры. Перад чарговым падаражаннем дзялілі легкавыя аўтамабілі, якія паступілі на продаж ва ўласнае карыстанне. На камісіі па размеркаванню адзін генерал закінуў слоўца за другога генерала, маўляў, прашу падтрымаць, пераступіць праз сумленне. У выніку «колы» атрымаў генерал-маёр В. Казачэнка — былы першы намеснік начальніка Палітычнага ўпраўлення. Той самы, які зрабіў салдат парабкамі на будаўніцтве ўласнай дачы. Замест пакарання яго заахвоцілі. Напэўна, як вынаходніка новай формы выхавання падначаленых.

Пакінем у спакоі генералаў. У рэшце рэшт, кожны з іх мае сваё меркаванне аб сумленні. Але ж члены камісіі, такія ж, як і ўсе, афіцэры, чаму яны, за выключэннем асобных, прагаласавалі «за» і тым самым здрадзілі справядлівасці? Па звычцы ўзялі пад «казырок»?

Ніхто за нас смецце не вымеце. Хопіць слугаваць. Тады, можа, і «слугі» іншымі вачамі паглядзяць не сябе. Ніяк, напрыклад, не ўцямлю, як мог маршал Я. Шапашнікаў адправіць у незалежную Беларусь тэлеграму аб прыняцці прысягі на вернасць Расійскай Федэрацыі і яе народу? Недагляд альбо тое ж прыслужніцтва?

На апошняе падобныя спробы некаторых афіцэраў адмежавацца ад беларускай мовы, нацыянальнай культуры. Нядаўна адзін з «ініцыятараў» пісьма да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь збіраў адпаведныя подпісы. Маўляў, зрабіце, каб і руская мова была ў рэспубліцы дзяржаўнай. Нават наша машыністка, руская, здзівілася такому спрыту. Рэагаванне афіцэра было спакойным: «Вунь у Канадзе — англійская і французская...»

Але ж то ў Канадзе. Тыя мясціны абжывалі англічане і французы. У Беларусі спрадвеку жылі беларусы са сваёй мовай. Іншая рэч, і таму вялікая горыч, што яна мала дзе захавалася ў поўнай красе. Аднак наступіў час адраджэння.

Справа кожнага вайскоўца паважаць мову таго народа, на зямлі якога жывеш, дзе знайшлі радзіму дзеці. Паважаць і вывучаць. Бо з мовы, культуры пачынаецца чалавек. Тады, упэўнены, не прыйдзецца гаварыць і аб прыслужніцтве ў розных яго формах. Мы проста станем намнога чысцейшымі ў дзеяннях, багацейшымі — душой.

Уладзімір РУДЗЕНКА,
падпалкоўнік.

НА АКТУАЛЬНУЮ ТЭМУ

# ЧАМУ ДЭПУТАТЫ НЕ ПАДТРЫМАЛІ ПРАКУРОРА,

## ці Для каго пісаны закон?

Нядаўна ў Нясвіжы адбылася нечарговая сесія раённага Савета народных дэпутатаў. Сабраліся народныя абраннікі для таго, каб прыняць рашэнне: задаволіць ці адхіліць просьбу пракурора раёна А. Галдукевіча аб пазбаўленні дэпутацкага статуса дэпутата Лявонавіцкага сельскага і раённага Саветаў В. Скудро і прыцягненні яго да крымінальнай адказнасці.

Цікава, хто ж такі грамадзянін В. Скудро і што ён учыніў? Вячаслаў Паўлавіч чалавек у раёне вядомы — старшыня калгаса «1 Мая». Таму гісторыя з ім была літаральна на вуснах ледзь не кожнага жыхара наваколля. А вось адносіны да таго, што з ім здарылася,— неадназначныя. Гэта і адлюстравала сесія райсавета.

З лаканічнага і бясстраснага выступлення пракурора сталі вядомымі некаторыя падрабязнасці справы.

В. Скудро без афармлення адпаведных дакументаў загадаў адвезці ноччу ў Нясвіж грамадзяніну з «падмочанай» рэпутацыяй, нейкаму Галавачу, пяць тон бульбы. Што і было зроблена. Далей — болей. За свае сродкі калгас набыў коштам звыш чатырох тысяч рублёў вагончык-бытоўку. Па распараджэнню старшыні вагончык і 3 кубаметры дошак былі дастаўлены на калгасным транспарце ў Маскву... на дачу адказнага работніка былога саюзнага Дзяржаграпрома.

Парушэнні законнасці відавочныя. Самы час, здаецца, занесці над кіруючай галавой грамадзяніна Скудро караючы меч правасуддзя. Аднак жа дзеля чаго Вячаслаў Паўлавіч ішоў на канфлікт з законам? Паводле яго слоў, выключна ў інтарэсах справы. За бульбу яму абяцалі дастаць, праўда, па камерцыйнай цане, газавыя трубы, адказны ж маскоўскі апаратчык — кормаўборачную тэхніку.

Выходзіць, старшыня калгаса ніякі не злачынца, а проста прадпрымальны чалавек. Не пра сваю ж кішэнь дбаў, а кіраваўся выключна грамадскімі інтарэсамі.

— Звычайная бартэрная здзелка,— камандзірскім тонам рэзюміраваў ваенны камісар, дэпутат райсавета падпалкоўнік Уладзімір Міхайлавіч Семянькевіч. І аўтарытэтна дадаў: «Такое было, ёсць і будзе. Самі ведаеце, жывём у такой сістэме. Тое, што здарылася з таварышам Скудро, не віна яго, а бяда».

І быццам выратавальны круг кінуў у залу афіцэр. Шырокім фронтам у наступ на пракурора пайшоў старшынёўска-дырэктарскі корпус. Генералы ад палёў аўтарытэтна і аргументавана даказвалі, што існуючая сістэма гаспадарання звязвае іх па руках і нагах, вымушае ісці на злоўжыванні і што на месцы старшыні калгаса «1 Мая» сёння можа апынуцца кожны з іх. Дырэктар Гарадзейскага цукровага завода А. Максімовіч нават катэгарычным тонам патрабаваў ад пракурора і міліцыі не «шастаць з вобыскамі па дамах і кватэрах кіраўнікоў». Іншыя прамоўцы таксама абвінавацілі праваахоўныя органы ў спробе скампраметаваць, раскалоць корпус кіраўнікоў з мэтай зрабіць сялян рабамі. Маўляў, зараз толькі яны, камандзіры сельскагаспадарчай вытворчасці, здольныя накарміць людзей.

А мілавідная жанчына, дырэктар мясцовага камбіната бытавога абслугоўвання, са слязьмі на вачах, дрыжачым голасам даказвала з усёй сур'ёзнасцю, што дзеянні праваахоўнікаў у адносінах да Скудро неабгрунтаваныя і нават шкодныя. Яны, бачыце, кладуць пляму на ўсіх кіраўнікоў раёна. Здавалася, яшчэ крыху, і хто-небудзь грымне: «Каравул! Нашых б'юць...»

Некалькі астудзіла гэты ваяўнічы імпэт народны суддзя І. Тынявіцкая.

— Абсалютная большасць з вас — кіраўнікі. І ў чэргах вы, вядома, не стаіце,— разважліва пачала Ірына Іванаўна.— А шкада. Хоць бы паслухалі, што зараз гавораць пра Скудро і пра вас выбаршчыкі. Але гэта між іншым. А вось скажыце, што мне рабіць з піларамшчыкам таго ж калгаса «1 Мая», які ўкраў восем дошак на суму 32 рублі? Вы ж, Вячаслаў Паўлавіч, самі прасілі судзіць яго. Дарэчы, піларамшчык таксама сцвярджае, што дошкі сцягнуў не для сябе, а каб нямоглай пенсіянерцы дах залатаць. Скажыце, парайце, як мне быць? Лічыць піларамшчыка прадпрымальнікам, а крадзеж — бартэрнай здзелкай? Таму, прашу вас, перш чым галасаваць — даваць сваю згоду ці не даваць на пазбаўленне дэпутацкай недатыкальнасці Скудро, добра падумайце аб грамадскім рэзанансе вашага рашэння. Карпаратыўныя інтарэсы не павінны быць вышэй закона...

Падумалі народныя абраннікі і... прагаласавалі. Галасы размеркаваліся такім чынам: тры за тое, каб задаволіць просьбу пракурора, семдзесят — супраць.

Вось пакуль што і ўся гісторыя. Пануры пакідаў залу пасяджэнняў пракурор А. Галдукевіч. Паводле яго слоў, ён будзе звяртацца ў Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў, бо цвёрда перакананы, што вызначаць меру віны ці прымаць рашэнне аб невінаватасці Скудро можа толькі суд.

Скажу шчыра, не без ваганняў узяўся я за пяро, каб абнародаваць гэта здарэнне раённага маштабу. Аднак справа ў тым, што гісторыя старшыні калгаса «1 Мая» выходзіць далёка за межы аднаго раёна. З'ява, якая ляжыць у яе аснове, носіць тыповы, маштабны характар.

Гнілыя сацыяльны і эканамічны механізмы існуючай сістэмы гаспадарання сапраўды вымушаюць кіраўнікоў канфліктаваць з законам, уласным сумленнем. Разам з тым, падвяргаючы знішчальнай крытыцы ўстарэлую сістэму гаспадарання, многія старшыні калгасаў, дырэктары саўгасаў, кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў (і гэта яскрава было відаць на сесіі) з усяе сілы, рукамі і, як кажуць, зубамі, трымаюцца за яе, стараюцца захаваць. Чаму? Ці не з-за боязі страціць камандныя вышыні, а разам з імі і права размяркоўваць усё, што ствараецца розумам вучоных, рукамі рабочых і сялян. Не выпадкова ж абсалютная большасць кіраўнікоў і слухаць не хоча аб прыватызацыі зямлі, сфер гандлю, бытпаслуг і г. д. Уласнік — вольны чалавек, сам сабе гаспадар. Дык кім тады камандаваць, кіраваць? Вось дзе сабака закапаны.

Не пазайздросціш у сённяшняй сітуацыі і работнікам праваахоўных органаў. З аднаго боку — растучая злачыннасць, у тым ліку і ў сферы эканомікі, з другога — спробы, і даволі паспяховыя, блакіраваць, скампраметаваць саміх праваахоўнікаў і іх работу, давесці рэспубліку да поўнага развалу, бязладдзя і безуладдзя. Не выпадкова ж дэпутаты-прамоўцы на сесіі заклікалі праваахоўнікаў «не шастаць» па іх кватэрах і каморах і ў той жа час абвінавачвалі ў няздольнасці забяспечыць належны правапарадак. Вось і выходзіць: накручвай, народны суддзя, на ўсю катушку піларамшчыку, а нас і пальцам не крані.

Дзе логіка? Яе тут няма, як і ў тым, што ў вёсцы Мысліва таго ж калгаса «1 Мая» па сённяшні дзень (!) жывёлаводы і хлебаробы жывуць без электрычнага святла, пры лучыне. Што, сродкаў няма, каб далучыць гэтых бядотнікаў да больш-менш цывілізаванага жыцця? Усе ж работы абыдуцца гаспадарцы прыкладна ў 12 тысяч рублёў. Не, сродкі ёсць. Паводле слоў самога В. Скудро, калгас летась меў чыстага даходу звыш 3 мільёнаў рублёў. А людзі пакутуюць без святла. Абсурд? Так. Але і заканамернасць, якая вынікае з усёй нашай учарашняй і сённяшняй рэчаіснасці.

Сітуацыя, пра якую я расказаў, прымушае паставіць банальнае, але надзённае пытанне: дык для каго пісаліся законы? Для ўсіх ці толькі для пакарання безабаронных?

Алесь МАКОЎСКІ.
Нясвіжскі раён.

# Прыйшлі Грамніцы— скідай рукавіцы

НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

Людзі, добра знаёмыя з традыцыйным народным календаром, ведаюць аб устойлівай прымеркаванасці найбольш значных свят да пэўнага часу. Так, святкаванне Каляд і Купалля супадала з часам зімовага і летняга сонцавароту, Вялікдзень — свята рухомае але з днём яго правядзення цесна звязана святкаванне Масленкі, Вербніцы, Радаўніцы і Тройцы. Да ліку пастаянных свят адносяцца Грамніцы, у назве якіх адчуваецца перш за ўсё вяснова-летняя прыродная стыхія. Але гістарычна склалася так, што яны прыпадаюць на 15 лютага, калі прырода, здавалася б, яшчэ спіць глыбокім сном. Прычым у беларусаў шырока вядомы прыказкі, у якіх Грамніцы ўяўляюцца своеасаблівай сакральнай мяжой: **«На Грамніцы — паўзіміцы», «На Грамніцы — палавіна зіміцы», «Грамніца — хлебу палавіца».** Які жыццёва-абагульнены або практычна-будзённы сэнс сфармуляваны ў гэтых народных паэтычных мініяцюрах? Ці то нейкая вешчая перасцярога, ці то адвечная сялянская надзея на хуткую палёгку? На першы погляд выклікае сумненне і даволі запозненая прымеркаванасць падзелу зімы папалам, калі фактычна сярэдзіна лютага — амаль што пярэдадзень вясны.

Думаецца, што адказ на гэтыя пытанні трэба шукаць яшчэ ў адной прыказцы: **«Калі на Грамніцы певень нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я пад'есць вол травіцы».** Вада, вадзіца, аб якой тут ідзе гаворка, — аснова існавання ўсяго жывога, а ў веснавых абрадах яна выкарыстоўваецца як магічна-ачышчальны сродак (асабліва першая веснавая, юраўская раса, якую збіралі льняным абрусам, а затым націралі хворага чалавека). Тады, магчыма, грамнічная вада, што сцякае са страхі, у дзень свята ўспрымаецца як сімвал доўгачаканага абуджэння прыроды, як сімвал адраджэння сонца. Нездарма ж у народзе пачуеш: **«Прыйшлі Грамніцы — скідай рукавіцы».** З улікам усіх гэтых акалічнасцей ёсць падставы меркаваць, што Грамніцы ломяць зіму папалам, бо, як вядома, яна пачынаецца «замыканнем» зямлі Пакровамі і канчаткова знікне з яе «адмыканнем» на св. Юр'я (6 мая).

Сярод фалькларыстаў і этнографаў існуе думка, што назва свята бярэ свой пачатак ад імя аднаго з галоўных язычніцкіх божышчаў — Грамаўніка. Аднак даволі часта яны ўдакладняюць: Перуна. Разам з тым адвечная моўная стыхія пранесла праз стагоддзі і захавала да цяперашняга часу назвы трох блізкародных божышчаў: Перуна: Грому-Грамаўніка і Маланкі. Нагадаем толькі некаторыя ўстойлівыя моўныя словаўтварэнні: «пярун цябе забі (вазьмі)», «маланка смаліць», «гром грыміць». Зразумела, што найбольш трэба было асцерагацца Перуна або Маланкі. Як вядома, іх ушанаванне адбываецца летам, у дзень святога Іллі. Зімовыя ж Грамніцы бадай што ўвасабляюць тую прыродную стыхію, якая не забівае чалавека, не паліць яго гаспадарку, а толькі грыміць — вяшчуе, а можа, ахоўвае, перасцерагае, папярэджвае. Яшчэ і сёння вядома павер'е аб тым, што год будзе неўраджайны, галодны, калі гром падзе першы раз на голы лес.

Менавіта таму ў гэты зімовы дзень беларус-земляроб звяртаўся да Грамаўніка, як да божышча, якое абараняла яго, не ўчыняла шкоды і якое, відаць, нараджалася ў гэты час, набірала моц і разам з сонцам павольі перамагала смерць — Марану. Таму народныя мудрацы перакананы, што да першага грому зямля не ачышчаецца.

Больш шырокае ўяўленне аб выключнай ролі шуму, грому даюць шматлікія абрады і рытуальныя дзеянні. Напрыклад, пахаванне чалавека заўсёды суправаджаецца цэлым цыклам галашэнняў, якія не толькі ўвабралі ў сябе драматызм экстрэмальнай сітуацыі і горыч вялікай страты, але прызначаны былі адганяць ад дома памёршага смерць, каб яна не забрала з сабой яшчэ каго-небудзь з суродзічаў. Тую ж ролю — адганяць злыя сілы — выконвалі вясельныя галашэнні маладой, а таксама маленькія званочкі пад дугой каня, што імчаў наперадзе святочнага поезда.

З часоў распаўсюджвання на Беларусі хрысціянства магічна-ахоўную ролю шуму-грому сталі выконваць свечкі, якія перанялі спрадвечную язычніцкую назву — «грамніцы». Воск для іх гаспадар рыхтаваў загадзя, а выраблаў ужо напярэдадні, у апошнюю перадсвяточную суботу. Дзеля зручнасці ў карыстанні грамнічная свечка мела ў даўжыню каля 10 вяршкоў (44 см), а ў таўшчыню — тры чвэрці вяршка. 15 лютага свечка асвячалася ў царкве, пасля чаго набывала магічна-засцерагальную сілу і на працягу года неаднаразова выкарыстоўвалася як асноўны атрыбут розных ахоўных рытуалаў.

Гаспадар, вярнуўшыся з царквы, даставаў свечку з-за пазухі, гаспадыня запальвала яе, і пачынаўся таямнічы незвычайны абрад вогненнага крыжавання. Спачатку гаспадар крыжападобна абпальваў свечкай валасы на сваёй галаве, потым жонцы і дзецям. Затым сям'я ішла ў хлеў, дзе агністыя крыжы выпальваліся ў кожнай жывёліны. Заканчваўся абрад датыканнем (магчыма пастукваннем) грамнічнай свечкі да ўсіх сцен, вушакоў, дзвярэй, пастаўленых на зімоўку вулляў. Пасля гэтага абраду «грамніца» хавалася за бажніцу.

Потым на працягу ўсяго года, аж да наступных Грамніц, свечка неаднаразова выкарыстоўвалася як засцерагальны магічны амулет, як надзейны ахоўны сродак для ўсёй сям'і і гаспадаркі. Яе абавязкова бралі з сабой, калі ішлі ў сваты, запальвалі, калі бабка-павітуха прымала нованароджанага, давалі ў рукі паміраючаму, каб хутчэй і лягчэй наступіла смерць, а потым яна ставілася на ўсіх памінках, была пастаянным спадарожнікам шматлікіх сялянскіх работ.

15 лютага хрысціянская царква святкуе «Сретение Господне». У Евангеллі паводле Лукі сказана, што ў саракавы дзень пасля нараджэння Ісуса Хрыста яго бацькі Іосіф і Марыя прынеслі сына ў Іерусалімскі храм з мэтай выканання старазапаветнага канона — прадставіць яго перад Госпадам. У храме іх сустрэлі праведны Сімяон і прарочыца Ганна. Сімяон благаславіў Ісуса і сказаў: «Цяпер адпускаеш слугу Твайго, Валадару, па слову Твайму з мірам».

Аднак у народным асяроддзі царкоўнае «Сретенье» атрымала дадатковае адценне і стала ўспрымацца як «Стрэчанне» — сустрэча зімы з вясною:

**А ў нас сёння Стрэчанне,**
**Стрэчанне**
**Зіма з летам стрэлася,**
**стрэлася.**
**Лета зіму піхнула,**
**піхнула.**
**І ножачку звіхнула,**
**звіхнула.**
**Зіма пайшла, плачучы,**
**плачучы,**
**Лета пайшло, скачучы,**
**скачучы.**

Зразумела, што такая важная мяжа ў стане прыроды павінна была прадказваць надвор'е наперад. Скрыпучы мароз у гэты дзень сведчыў: снег хутка сыдзе, вясна будзе сухой, а год галодны. Пацяпленне раніцай прадказвала цёплае заканчэнне зімы; адліга ў поўдзень — будзе цёплай вясна, а калі пад вечар — чакай спякотнага лета. Грамнічная мяцеліца сведчыла аб позняй вясне і дадатковым клопаце аб заканчэнні стойлавага ўтрымання жывёлы.

Старыя людзі раяць: рэшткі грамнічнай свечкі ніколі не выкідвайце, а пераплаўце ў новую, зрэшты, лепш за ўсё насіць яе з сабой. Гэты амулет падарае вам шчасце, ахавае ў далёкай дарозе, не дасць заблудзіцца ў незнаёмых мясцінах.

**Іван КРУК,**
**фалькларыст.**

## РАДЫЁ

### 14 лютага

11.40 — беларускія народныя песні. 12.00 — «Апоўдні». 13.00 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — музычная праграма, прысвечаная калектыву Мінскага швейнага прадпрыемства. 15.15 — канцэрт. 16.05 — «Гульня без пройгрышу». Спартыўная праграма для школьнікаў. 16.30 — «У свеце чароўных гукаў». 17.00 — «Гадзіна класічнай музыкі». 18.00 — перадачы абласнога радыё. 18.40 — канцэрт Н. Мікуліч. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45 — вячэрняя казка. 20.00 — «Дзень нашага жыцця». 20.25 — спявае вакальны гурт вёскі Якімава Слабада Гомельскай вобласці. 20.40 — «Машэрава, 21». Прафсаюзны веснік. 21.00 — «Джазхваля». 22.00 — музычная праграма. 23.10 — праграма радыёстанцыі «Сямейнае радыё» (ЗША). 23.25 — «Начны канал».

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**«Цяпер вы нашы».** Нататкі аб сустрэчы В. Ф. Кебіча з афіцэрамі пакуль яшчэ Савецкай Арміі.

**«Ратнае поле».** Што адбываецца з сельскай гаспадаркай, якім шляхам яе можна вывесці з цяперашняга крызіснага стану?

**«Патрэбны новыя меры абароны».** Месяц існавання ва ўмовах лібералізацыі цэн паказаў: падзенне жыццёвага ўзроўню насельніцтва працягваецца.

**«Зарабіў, але не атрымаў».** Пісьмо з Мінска.

**«Дыхайце глыбей: вы ўсхваляваны».** Галавацяпства з узломам.

**«Лёс валютнага хлеба».** Факт і каментарый.

## НАДВОР'Е

### 13 лютага

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае з туманамі і слабымі ападкамі надвор'е. Тэмпература паветра ў Гродна і Брэсце — 3—5, Гомелі — 2—4, Магілёве, Віцебску і Мінску — 1—3 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак: 14 лютага на большай частцы, 15-га—месцамі па рэспубліцы невялікія ападкі. Тэмпература паветра ўначы ад 3 градусаў марозу да 2-х цяпла, удзень 14-га — 2—7, 15-га — 0—5 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**



## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 13 лютага

**Беларускае тэлебачанне**

**11.00.** «Душы маёй царыцы». Фільм-канцэрт.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Беларуская літаратура. 7-ы клас.
**17.05.** «На парог мой села казка», «Хітрыкі Рамзеса», «Няўлоўны Фунцік», «Нехачуха». Мультфільмы.
**17.45.** «Рамэо і Юлія». Фрагменты з балета на музыку Г. Берліёза». Фільм-канцэрт.
**18.00.** Дак. фільмы «Гарадзецкія майстры», «Каб горан не згас».
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.35.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.40.** Факты і меркаванні. «Незалежнасць. Нейтралітэт. Армія».
**20.25.** Калыханка.
**20.45.** Тыдзень беларускага ўрада.
**21.00.** Крок. «Пасля афганскай вайны».
**23.20.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**12.30.** Чалавек і закон.
**13.15.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны.
**14.20.** Спявае В. Варанец.
**14.50.** «У бары брусніцы». 2-я серыя «Ягоравы».
**16.15.** «Ну, пачакай!» Мультфільм.
**16.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**17.00.** Навіны.
**17.20.** Да Міжнароднага тэлемарафона «Салдаты XX стагоддзя супраць вайны».
**17.30.** Зімнія алімпійскія гульні. Лыжны спорт.
**18.25.** Мастацкі фільм «Там, дзе неба ляжыць на зямлі».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** Зімнія алімпійскія гульні. Канькабежны спорт.
**21.10.** Зімнія алімпійскія гульні. Хакей. Матч папярэдняга турніру. У перапынках — Навіны; «Крымінфарм» паведамляе.
**23.45—0.55.** Сусветны музычны прыз Монтэ-Карла.

**Канал «Расія»**

**12.15.** Адкрыты горад.
**15.00.** Пятае кола.
**16.00.** У імя сына.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** Слалам. Жанчыны.
**17.55.** Парламенцкі веснік Расіі.
**18.10.** Зімнія алімпійскія гульні. Фрыстайл. Могул.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Спецыяльны камерцыйны веснік.
**19.40.** Чытайце Шаламава.
**20.00.** На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
**20.30.** Дзённік Алімпіяды.
**21.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Фігурнае катанне.
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Фігурнае катанне. Працяг.

### 14 лютага

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Роздум аб казцы». Кінанарыс.
**9.00.** Беларуская літаратура. 7-ы клас.
**9.30.** «Радасная душа». Фільм-канцэрт.
**10.00.** «Часовае знікненне лета». Інсцэніроўка паводле вершаў В. Куртаніч.
**10.15.** «Па следу ўладара». Мастацкі фільм.
**15.25.** Меркурый.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** «Ромка, Фомка і Артос». «Верашок». Мультфільмы.
**17.25.** Сем колераў радасці.
**18.00.** Дак. фільмы «Флейта», «Ач гяла значыць нежанаты».
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны (Магілёў).
**19.35.** Наш каментарый. «Крок да згоды».
**19.40.** Якія мы гаспадары? Народнае прадпрыемства «Бабруйскдрэў».
**20.35.** Калыханка.
**20.45.** Тэлебіржа.
**21.00.** Экран беларускага кіно. «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».
**22.25.** НІКа.
**22.40.** Фестываль беларускай песні ў Белавежскай пушчы. Частка 1-я.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** «Пеўнік Гок і хітрыя мышкі». Мультфільм.
**7.45.** Зімнія алімпійскія гульні. Хакей. Матч папярэдняга турніру.
**9.05.** «Там, дзе неба ляжыць на зямлі». Мастацкі фільм.
**10.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**12.20.** Дак. фільм «У краі гаючых вод»; «Сібір на экране». Кіначасопіс.
**13.00.** Выступае ансамбль «Адыген».
**13.30.** Брыдж.
**13.45.** Бізнес-клас.
**14.00.** Навіны.
**14.20.** Зімнія алімпійскія гульні. Санны спорт. Двойкі.
**14.45.** Хакей. Зборная СНД— зборная Францыі.
**16.30.** Чалавек і закон.
**17.00.** Навіны
**17.20.** Зімнія алімпійскія гульні. Скачкі з трампліна.
**18.10.** «Вампіры Геоны». Мультфільм.
**18.20.** «Мая сям'я і іншыя жывёлы». 6-я серыя.
**18.50.** «ВІД» прадстаўляе: «Поле цудаў».
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.35.** Зімнія алімпійскія гульні. Канькабежны спорт.
**21.10.** Зімнія алімпійскія гульні. Хакей. Зборная Чэха-Славакіі — зборная Канады. У перапынку (23.00) — Навіны.
**23.45.** «ВІД» прадстаўляе. «Эльдарада», «Шоу-біржа», «Хіт-канвеер».

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Час дзелавых людзей.
**8.20.** Англійская мова. 1-ы год навучання.
**8.50.** Англійская мова. 2-гі год навучання.
**9.25.** Дзённік Алімпіяды.
**10.00.** Тэлеасамблея.
**11.00.** Зімнія алімпійскія гульні. Біятлон.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Прастора плюс.
**15.30.** Дыялогі дылетантаў.
**16.00.** Хто дапаможа расійскай культуры?
**16.15.** Дыялог з камп'ютэрам.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** Прыватызацыя па-расійску.
**17.15.** «Мастак з Астожанкі». Валянцін Леановіч.
**17.45.** У пошуках згоды. 500 праз 500.
**18.25.** Версія.
**18.40.** Вольны час. «Увага: здымаю!»
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** «Санта-Барбара». 24-я серыя.
**20.20.** Дзённік Алімпіяды.
**20.50.** «К-2» прадстаўляе: кінавіктарыну «Ведай нашых», праграму «Каронка»; Мастацкі фільм «На апошнім дыханні» (Францыя). У перапынках: Весткі; На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.

# Мітынговая аповесць

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ**

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 25—28).

— Можа і так. Але ў кожнага свая мерка. Калі ён мне асабіста зрабіў нешта добрае, значыць, хвала яму. Калі не — анафема. У нас да аб'ектыўнасці заўсёды далёка.

— У нас кожны чакае, каб яму нехта нешта зрабіў. А ў жыцці так: калі сам сабе зробіш, дык і будзеш мець. Не спадзявайся на кагосьці. А яшчэ лепш: зрабіў добрае сабе, дык зрабі і людзям.

— Вось як мы: не спадзяёмся на іх, выйшлі на вуліцу.

Яны выходзілі на плошчу Леніна перад Домам урада. Як ішлі, цяжка было бачыць, колькі народу сабралася, а тут уся плошча, тратуары перад усімі будынкамі і ходнікі між газонамі на скверы былі запруджаны народам. Колькі тут было тысяч — цяжка сказаць, але ва ўсякім разе больш за дзесяць — так падумалася Міхасю Парэпку.

І ўсюды — сцягі, пратэсы-харугвы чорнага колеру, шчыты з лозунгамі — часам іранічнага зместу, скіраваныя супроць бюракратыі і партакратыі. Вылучаліся, ажно білі ў вочы чорныя пратэсы на высокіх дрэўках: «Брагінскі раён», «Нараўлянскі раён», «Хойніцкі раён», «Веткаўскі раён», «Краснапольскі раён» і іншыя. Былі тут людзі з усёй рэспублікі, асабліва адтуль, з-пад «зоны».

— Але ж і народу шмат, — здзівілася Рагнеда Ляшковіч. — І не паглядзелі на дождж! І не пайшлі на суботнік. А мо ўжо нават і пасля суботніка...

— Але, але, якраз сёння трэба было аб'явіць суботнік у фонд ахвярам Чарнобыля, — успомніў Парэпка пра суботнік, аб'яўлены ў Мінску гарадскою ўладаю. — Народ абуджаецца ад цяжкага сну. Перш за ўсё ён павінен абудзіць сваю душу, свой розум, ачысціць яго...

Народ паступова сцякаўся да цэнтра плошчы, да педінстытута, на ганку якога пад калонамі была імправізаваная трыбуна, на ёй стаялі мікрафоны, там ужо стаяла некалькі чалавек.

Пачаўся мітынг. Гаварылі ад «Мартыралога Беларусі», гаварылі беларускія вучоныя, быў нават адзін з Масквы, вялікае свяціла, выступалі народныя дэпутаты, потым простыя людзі, якія прыехалі з чарнобыльскай зоны — з Брагіна, Хойнікаў, Нароўлі, тыя, што адчуваюць халоднае дыханне атамнага монстра на сваёй скуры і днём і ноччу.

Як згаварыўшыся, яны даводзілі, што беларускі ўрад мала дбае пра сваіх людзей, якія засталіся сам-насам з чарнобыльскаю навалай, бо яны бясконца набіраюць рэнтгены-кюры, яны ядуць заражаную радыенуклідамі страву, што яны ўрэшце паміраюць без пары пакутліваю і маруднаю смерцю. Што смерць гэтая не шкадуе нават дзяцей, і што якраз дзеці найбольш хутка паддаюцца радыяцыі, робяцца яе ахвярамі.

Гаварылі пра замоўчванне маштабаў бяды. Пра тое, што з кожным годам і часам праўда церабіла сабе дарогу, выходзіла да людзей. Яе нельга было стрымаць ніякімі штучнымі бар'ерамі. Здалёк, у Маскве, вучоныя гаварылі адно, свае, беларусы, браты і бацькі якіх трапілі ў зону, не маглі таіць небяспекі і гаварылі праўду: трэба ратаваць людзей, трэба адсяляць людзей не толькі з трыццацікіламетровай зоны.

А колькі закапалі грошай у зямлю: перасялялі людзей з зоны і засялялі новыя пасёлкі, нядаўна пабудаваныя непадалёку ад зоны, а пасля аказалася, што і тут людзям жыць небяспечна, бо ўзровень радыяцыі высокі.

Колькі сіл каштавала нашым вучоным, каб разбіць антычалавечную 35-бэрную сістэму маскоўскіх вучоных, якія даказвалі, што, пражыўшы на заражаным месцы семдзесят пяць гадоў, чалавек не набярэ звычайных трыццаці пяці бэраў, якія лічацца няшкоднымі для яго здароўя. Але дзе, хто, калі гэта даказаў? Хто пражыў на заражанай тэрыторыі 75 гадоў? Ніхто, ніколі, нідзе! А маскоўскія вучоныя (чэрствыя чыноўныя душы!) даказвалі, аж разрываліся ад крыку, што ў заражанай мясцовасці можна жыць і займацца сельскай гаспадаркай, збіраць ураджай і карыстацца яго плёнам. Аднак жа, калі яны прыязджалі ў прылеглыя да зоны мясціны, дык самі карысталіся прывезенымі з сабою прадуктамі, а абутак і вопратку потым скідалі і пакідалі на месцы, надзявалі і абувалі ўсё новае.

Вось так: для народа адно, для сябе —другое! Чаму ж вы такія, чыноўныя душы? Каму ж па-ранейшаму служыць наша навука? Наша ідэйная, партыйная навука? Ясна, што партыі, а не чалавеку. Чалавек — гэта нішто... У свой час «правадыр усіх часоў і народаў» казаў, што чалавек — самая вялікая каштоўнасць у нашай савецкай дзяржаве. А што ён рабіў з гэтым чалавекам? З мільёнамі? З цэлымі народамі? Ці не вы, шаноўныя вучоныя, яго верныя вучні і паслядоўнікі? Бо робіце так, як рабіў ваш ідэйны правадыр...

Ад усяго гэтага ў Парэпкі пачынала пухнуць галава, не хапала цярпення выносіць усю тую несправядлівасць, якая расла і квітнела ў наш час, калі перабудова аб'явіла ёй вайну з першага дня свайго ўступлення ў сілу.

На сродкі, сабраныя народам для чарнобыльскіх дзяцей, нейкія прафсаюзныя і іншыя босы паслалі ў турнэ па Еўропе сваіх сваякоў, сяброў і прыяцеляў! Ці маюць яны, гэтыя босы, хоць мізэрнае ўяўленне аб звычайнай чалавечай этыцы, аб звычайнай чалавечай годнасці? З такога факта вынікае, што зусім-зусім не маюць! Дык як жа яны дараслі да сваіх пасад, як іх дапусцілі да іх? Ды ўсё таму, што навокал былі такія ж самыя, як яны — простыя савецкія — людзі!

Не, дарагія, мы ўжо не простыя, мы ўсе сталі крывыя! Крывыя, як дугі!

І тут раптам Міхася Парэпку нібы што тонка кальнула ў сэрца — вядучы мітынгу аб'явіў знаёмае прозвішча: выступае Хведар Слабкоў! Вось чаго не чакаў Парэпка, дык не чакаў! І чамусьці днём нават не падумаў пазваніць яму, спытаць, ці ідзе ён сёння на «Чарнобыльскі шлях». Ці дамовіцца, каб ісці разам. Проста нейкая нестыкоўка! А мо Слабкоў знарок не пазваніў яму?.. Але добра, вельмі добра, што Слабкоў аб'явіўся тут сам, ды яшчэ на трыбуне!

— Слухай уважліва, — сказаў Парэпка да Рагнеды. — Будзе гаварыць мой швагер. Палкоўнік у адстаўцы.

— Я і не ведала, што ў цябе такі важнецкі сваяк, — здзівілася Рагнеда. — І што ж ён запяе?

— Зараз пачуем, — няпэўна адказаў Парэпка. Ён і сам не ведаў, чаго чакаць ад Хведара — можа загнуць і ўлева, і ўправа.

Слабкоў адкашляўся ў кулак, як бы настройваючы голас, і пачаў па-руску:

— Шаноўныя сябры! Землякі з Гомельшчыны! І ўсе, хто сёння на гэтай плошчы! Даруйце, што гавару з вамі не на роднай мове. Я ўсё вам растлумачу пасля... Сімвалічна, што наша сённяшняе шэсце і гэты мітынг назвалі «Чарнобыльскім шляхам». Шлях гэты цяжкі і пакутлівы, гэта як шлях Хрыста на Галгофу. Да гэтага шляху ўсе мы ішлі здалёк. Я сам з Гомельшчыны, там ужо даўно не жыву, але там засталіся мае блізкія і далёкія сваякі, мае землякі, яны цяпер там пакутуюць і без пары паміраюць... А ўрад наш, родны беларускі ўрад, пад вокны яго хаты мы сёння прыйшлі, каб ён пачуў нашы словы, — наш родны ўрад нешта не клапоціцца па-чалавечы, не руніцца, каб ратаваць людзей ад немінучай смерці, якая навісла над імі... Я доўга думаў над усім гэтым, думаў, што гэта выпадкова так атрымалася, а цяпер прыйшоў да высновы, што тут выпадковасці няма. Чарнобыльскі рэактар узарваўся невыпадкова. Гэта першы вынік палітызацыі нашага жыцця. У нас асноўнае — каб ты быў ідэйны, падкуты марксізмам, а што ты элементарна не ведаеш свае непасрэднае работы — гэта не страшна. Ёсць жа нехта, хоць адзін, хто яе ведае. На тых і ехалі, і едзем. Але яны не ішакі, усяго выцягнуць не могуць. На рэактары сядзелі неадукаваныя, трэба сказаць проста, людзі, якія не ведалі, на чым яны сядзяць. Такія ж самыя людзі іх туды пасадзілі. Такія ж і стварылі мадэль рэактара, які ўзарваўся... Як можна было валявым рашэннем запускаць у работу мадэль рэактара, якая не была прынята афіцыйнай камісіяй і адхілена таму, што там знайшлі шмат слабых мясцін, недапрацовак? Значыць, нехта невядомы, але з магутнаю рукою, змог яе абысці і запусціць у вытворчасць мадэль рэактара, які ўзарваўся. Узнікае пытанне, чаму той нехта магутны дасюль яшчэ застаецца невядомы і не панёс ніякай кары за свае злачынствы супроць чалавецтва? Яшчэ... Можа хто скажа, што гэтыя безадказныя работнікі былі беспартыйныя? Ніхто не скажа, бо ўсе ведаюць, што яны былі партыйныя, ідэйна падкутыя на ўсе чатыры, марксісты-ленінцы. Але, нягледзячы на гэта, іх чалавечае сумленне, іх грамадзянскае сумленне спала, або яго нават зусім не было, бо яго выганялі, яго выбівалі з чалавека... Я сам ужо, можна сказаць, былы вайсковец, прайшоў шлях ад лейтэнанта да палкоўніка, паступова трацячы ўсе свае лепшыя чалавечыя якасці і набываючы казённыя, партыйныя. Паступова я пазбыўся нацыянальных традыцый, роднае мовы і родных песень, я стаў «салдатам рэвалюцыі», як казалі раней, я стаў грамадзянінам Саюза. І калі я служыў у Цюмені, у іншых глухіх мясцінах нашага вялікага Саюза, я сумаваў па сваёй Беларусі, я плакаў па ёй... Толькі цяпер, нядаўна, я ўбачыў і зразумеў, што і ў Беларусі Беларусі ўжо няма. Яе зрабілі тэрыторыяй Саюза, прахадным дваром, адкуль усё можна ўзяць і вынесці, а пакінуць тое, што непатрэбна ў іншым месцы. Напрыклад, як атамны рэактар у Чарнобылі, на мяжы Украіны і Беларусі, пад бокам у Кіева. Горкі лёс тут напаткаў Украіну, толькі яна дужэйшая, можа змагацца за кроўнае, сваё. Мы, беларусы, хоць нас усяго дзесяць мільёнаў, таксама павінны змагацца за свой край, за свае традыцыі, за сваю мову. Інакш мы не нацыя, якая заслугоўвае павагі чалавецтва, а заселеная тубыльцамі тэрыторыя.

І апошняе. Я быў членам партыі, я быў ракетчыкам, як я мог быць беспартыйным? Раптам я пашлю ракету не ў той бок?.. Пасля доўгага роздуму я прыйшоў да вываду, што, уступіўшы ў партыю, я зрабіў фатальную памылку. Я перастаў быць сынам свае Беларусі, я стаў сынам Саюза, хутчэй не сынам, а пасынкам. Я хачу хоць на старасці год вярнуцца да сваіх вытокаў, да сваіх каранёў, вывучыць сваю мову і памерці беларусам, якім я быў пасля нараджэння і якімі былі мае дзяды і прадзеды. Я не хачу больш належаць да партыі, я хачу належаць да свайго беларускага народа. Таму я... прабачце за такі жэст, у гэты дзень салідарнасці з пакутнікамі Чарнобыля, хачу развітацца са сваёй партыйнаю прыналежнасцю. Не хачу быць у партыі, якая завяла народы ў камуністычны тупік...

На апошнія словы плошча адказала яму дружнымі воплескамі і ўхвальнымі крыкамі. «Брава, палкоўнік!» — крыкнуў нехта блізка.

А Слабкоў на вачах шматтысячнага натоўпу выняў з патайной кішэні ахоўнага колеру плашча партыйны білет, а ў левай у яго аказалася бліскучая запальнічка. Ён пстрыкнуў ёю, затрапятаўся бледны агеньчык, ён паднёс раскрытую кніжачку да полымя, і яна тут жа схапілася гарэць. Плошча заціхла, а недзе ў сярэдзіне, калі ад білета засталася меншая палавіна, зноў узарвалася воплескамі і крыкамі.

Слабкоў кінуў пад ногі абвугленую пакарабачаную кніжачку — ужо не кніжачку, а вуглі — і растаптаў нагою.

— Цяпер я з вамі, — крыкнуў у мікрафон з палёгкаю ў голасе і адышоўся, даў месца наступнаму чалавеку.

**1990—91 гг.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Мы свядома абрываем друкаванне ўрыўкаў з «Мітынговай аповесці» гэтым кульмінацыйным момантам. Тым самым пакідаем чытача ў развазе на самым «грэбені» таго ўнутранага пералому, які перажывае літаратурны герой. Можна па-рознаму аднесціся да такога перараджэння былога камуніста-сталініста Хведара Слабкова: палічыць яго палітычным прыстасаванствам ці ўнутранай духоўнай заканамернасцю; скараспелым і схематычным ці зусім праўдападобным. Пры ўсім пры тым Уладзімір Дамашэвіч адным з першых робіць фактам літаратуры падзеі нашага ўчарашняга і сённяшняга жыцця, спрабуе асэнсаваць тыя нацыянальна-свядомасныя зрухі, якія не абыходзяць амаль кожнага з нас.**

Галоўны рэдактар
У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: адказны сакратар Уладзімір Андрыевіч, першы намеснік адказнага сакратара Яўген Ляхаў, старшы карэктар Ала Сабалеўская.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63.850.
Зак. № 30.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12